# Весткі й Паведамленьні

**інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

**Viestki j Paviedamleńni**

Электронны адрас: *viestki@mail.com*
✉ *P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735*

**№ 1 (695)**
**Студзень 2024 г.**


## Зычым радасных Калядаў і шчасьлівага Новага году!



## Шаноўныя беларусы і беларусачкі,

шчыра запрашаем Вас і вашых дзетак узяць удзел у Шчадроўках!



Былі часы, калі ў Беларусі хадзілі ад хаты да хаты калядаваць. Вадзілі з сабою казу ды мядзьведзя, гучна сьпявалі песьні, гулялі ды таньчылі, частавалі адзін аднаго прысмакамі. Прапануем вам сваю беларуска-амэрыканскую вэрсію такога сьвяткаваньня, каб разам адзначыць вясёлыя сьвяты, а таксама паказаць нашым маленькім дзеткам прыгожыя і цікавыя традыцыі нашай багатай беларускай культурнай спадчыны.

Прыяжджайце ў суботу **6 студзеня 2024 году** а **12-й** дня на адрас:
***1 Westerly Road***
***Ossining, NY 10562***
у ***Ossining Boat and Canoe Club***, што знаходзіцца каля парку **Louis Engel Park**.
У выпадку моцнага сьнегу перанясем сьвята на нядзелю 7 студзеня.

Вас чакаюць традыцыйныя калядныя аладкі з прысмакамі, Шчадроўкі, гульні, конкурсы, танцы, падарункі дзеткам ды сапраўдны абрад Жаніцьба Цярэшкі. Калі можаце і жадаеце, прыносьце свае стравы да агульнага стала падзяліцца з калядоўшчыкамі ў шчодры вечар!

Кошт увахода дарослым і дзецям ад 14 гадоў: **$20.**

# Прээзэнтацыя альманаху “Беларус” за 2023 год

У нядзелю, 10 сьнежня 2023 году, адбылася прээзэнтацыя 17-га выпуску літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа “Беларус”. Імпрэза праходзіла ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. Напачатку з уступным словам выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка. Ён адзначыў, што альманах выходзіць ужо 16 год, з 2007 г., і зьяўляецца адзіным выданьнем, што публікуе творы людзей, якія пішуць па-беларуску і жывуць па-за межамі Беларусі. “Аўтары патрэбныя альманаху так жа, як і чытачы. Таму пашырайце інфармацыю пра нашае выданьне. Пад адной вокладкай сабраныя аўтары розных ўзроўняў, з розным досьведам, але ідэя ў тым, каб кожны меў магчымасьць аддаць свой твор на суд чытачоў, і каб гэта пашырала беларускую прысутнасьць, каб беларускага слова было болей. І гэта, бадай, першая задача альманаху, а не, скажам, дбаньне пра нейкія вялікія дасягненьні ў сэнсе літаратурным і мастацкім, хоць гэта таксама важна”.

Затым перад прысутнымі выступіў рэдактар альманаху “Беларус” і колішні рэдактар газэты “Беларус” сп. Марат Клакоцкі. Ён прывітаў прысутных і павіншаваў з выхадам нумару, бо гэта нашае агульнае сьвята. “Ужо традыцыйна склалася, што кожны год у лістападзе-сьнежні адбываюцца прээзэнтацыі новага выпуску “Беларуса”, шмат людзей ведаюць і чакаюць на яе. Выданьне нашае некамэрцыйнае, прыбыткаў не прыно-

***заканчэньне на бачыне 3***



# Адвакаты Хамасу, або сутоньне цывілізацыі

Падзеі 7 кастрычніка 2023 году ў Ізраілі й пазьней у сэктары Газа і вакол яго паказваюць, што можна чакаць, калі пануючая ў ітэлектуальнай сфэры й сярод элітаў Захаду ідэалёгія, зьвязаная з ідэнтычнасьцю і расай ня будзе спыненая і павернутая назад. На нашых вачах студэнты, а часта і выкладчыкі, самых прэстыжных навучальных установаў ЗША, і шырэй – Захаду, выступілі з падтрымкаю самых нялюдзкіх і садыстычных дзеяньняў узброеных тэрарыстаў, а пасьля пратэставалі супраць цалкам абгрунтаванай вайсковай рэакцыі ўраду, які прадстаўляе суайчыньнікаў ахвяраў тэрарызму ды іхныя сем'і. Зьверскія забойствы, згвалтаваньні й захоп закладнікаў, у тым ліку нованароджаных дзяцей, жанчын, старых – прапанавана “разглядаць у кантэксьце 75-гадовай акупацыі”. Маўляў, “рэжым пасяленцаў-каляніялістаў” сам наклікаў на сябе тыя беды й справядлівы гнеў народу Палестыны. Юнакі з натхнёнымі тварамі, мілыя дзяўчаты зь пяшчотным абрысам вуснаў выгукалі лёзунгі “Ад ракі ажно да мора Палестына будзе вольна!”, “Вызвалім Палестыну!”, “Не – генацыду!”, “Даеш спыненьне агню!”




Згодна зь лявацкім сьветаглядам, усе людзі – прадстаўнікі пэўных групаў, а ўсе групы дзеляцца на “прыгнятальнікаў” і “прыгнечаных”. Гэта значыць, прыгнятаючыя нацыі – гэта кепска. Вызваляцца можна любымі сродкамі (“by any means necessary” – пішуць на плякатах), а кепскіх можна (і трэба?) забіваць. І выглядае, што людзі пагадзіліся, прызналі, што рабіць так – справядліва і правільна. Гэтак жа некалі сказалі немцам: “Гэбраі гэта ворагі, кепская нацыя, іх можна і трэба вынішчаць”. А расейцам сказалі: “трацкісты й бухарынцы – гэта шалёныя сабакі, іх усіх трэба зьнішчыць”. І людзі пагадзіліся, што гэта правільна і справядліва. Крытычнае мысьленьне, лёгіка і глузд былі тады адключаныя. І выглядае, што іх спрабуюць вымкнуць і сёньня. Больш таго, самыя гэтыя паняцьці абвяшчаюцца цяпер хлусьлівымі канцэптамі на службе сыстэмнага расізму, “фігавым лістком паняволеньня цемнаскурых”.

Канешне, нікога з “пратэстоўцаў” не хвалюе, што насамрэч адбываецца на Блізкім Усходзе, і ў ход ідуць пустыя адказы на складаныя пытаньні. Але ж д'ябал, па прымаўцы, а таксама рэальны стан рэчаў, хаваюцца менавіта ў дэталях. А яны паказваюць, што гэбраі й да стварэньня дзяржавы Ізраіль жылі ў Палестыне тысячы год, што яны не выдзіралі зямлю з-пад ног арабаў, а куплялі яе. Што ў 1947 годзе былая мандатная брытанская калёнія была праз міжнародныя мэханізмы й галасаваньне ў ААН падзеленая на гэбрайскую і арабскую дзяржавы. Але арабы не пагадзіліся на падзел і вырашылі ўзяць усё. Ажно пяць іхных арміяў напалі на новаствораны Ізраіль і пацярпелі паразу. Урад кіраваць арабскай палестынскай краінай так і ня быў створаны, рэшты яе тэрыторыі ўключылі ў свой склад Эгіпет (сэктар Газа) і Ярданія (заходні бераг ракі Ярдан). У 1967 годзе быў заплянаваны рэванш, але Ізраіль прэвэнтыўным ударам зноў разьбіў арабскія арміі, авалодаў усімі землямі колішняй падмандатнай Палестыны й Сінаем, які пасьля быў вернуты Эгіпту. З тога часу Ізраіль спрабаваў дабіцца ўрэгуляваньня канфлікту праз дамовы, але палестынцы зноў хацелі “ўзяць усё”, паставілі на тэрарыстычную палітыку і вяртаньне” ўсёй Палестыны. Ад тога часу адбылося мноства перамоваў, але выхад з канфлікту ня быў дасягнуты. Арганізацыя Фатх на Заходнім беразе паставіла на пэрманэнтны канфлікт зь нізкім узроўнем ангажаваньня ў гвалтоўныя дзеяньні. Арганізацыя Хамас у сэктары Газа з 2005 году з дапамогаю Ірану пастанавіла змагацца з Ізраілем тэрарам, усімі наяўнымі сродкамі, аж “да поўнага зьнішчэньня ворага” – так запісана ў іхным устаноўчым дакумэнце. І тут заснавальная дэклярацыя Хамасу перагукаецца зь лёзунгамі левакоў: “Любымі неабходнымі сродкамі”. Але калі Ізраіль бярэцца ў адказ вынішчаць Хамас – пачынаецца енк пра генацыд і несправядівасьць.

Гэта значыць, што Ізраіль кепскі, і яго трэба зьнішчыць, каб вызваліць “паняволеных” палестынцаў. “Вызваленьне” дазваляецца і на касьцях мірнага насельніцтва. Тактыкі тэрарызму і партызанскай вайны, распачатыя яшчэ савецкай партызанкай і выпрабаваныя ў Алжыры, Віетнаме і Аўганістане, актыўна выкарыстоўваюцца Хамасам.

Значным дасягненьнем палестынцаў і хібаю Ізраілю ёсьць тое, што наратыў гісторыі блізкаўсходняга канфлікту цалкам перайшоў пад кантроль акадэмікаў-ісламцаў арабаў і мусульманаў, такіх як Эдвард Саід, стваральніка канцэпту “арыенталізму”, які трактуе любыя ўзаемадзеяньні Захаду і Ўсходу апрыёры несправядлівым і агрэсыўным актам Захаду, а Ізраіль разглядаецца як утварэньне “пасяленцаў-каляніялістаў”. Пазыцыя франтальнага супрацьстаяньня і рэторыка “вызваленьня” стала моднай, атрымала падтрымку вядучых культурніцкіх і палітычных сілаў на Захадзе. Мадэльлю для левакоў і арабскіх урадаў ёсьць прыклад Паўднёвай Афрыкі. За часы лявацкая дэманізацыі гэтай краіны ў 1980-90-я гады яе ўрад быў маргіналізаваны, краіна была пад санкцыямі, і ў 1994 годзе прэзыдэнт ЛеКлерк перадаў уладу тэрарыстычнай партыі Афрыканскі Нацыянальны Кангрэс, якую падтымлівалі Саветы, і што дасюль стаіць там пры ўладзе. Левакі, пэўна, бачаць гэты ўзор мадэльлю перамогі над “пасяленцамі-каляніялістамі” і ў ЗША, і ў Ізраілі.

Падчас рэжыму апартэіду, пра які звычайна ведама толькі, што ён кепскі й брутальны, падвысіўся дабрабыт чорнага насельніцтва, пісьменнасьць вырасла з 4% у 1930-я гг. да амаль поўнай у канцы 1980-х, стмулявалася разьвіцьцё фармэрскіх гаспадарак і бізнэсу.

Пасьля скасаваньня сыстэмы апартэіду белых паўднёваафрыканцаў праз асацыяваньне з апартэідам пазбавілі маральнага аўтарытэту, і яны цяпер ня маюць права ні на якія прэтэнзіі ў публічнай сфэры, у тым ліку на роўнасьць і прадстаўніцтва. Іх прысутнасьць проста трываюць. І менавіта пазбаўленьне маральнага аўтарытэту гэта тое, што левакі БЛМ і “Праекту 1619” рыхтуюць для белага насельніцтва ЗША. Яны бяруць маральнае асуджэньне законаў Джым Кроў эпохі расізму й сэгрэгацыі і пераносяць на ўсе дзеяньні белых ва ўсе часы гісторыі, пакуль белыя ня будуць выціснутыя на маргінэс, удзячныя ўжо за тое, што іх талеруюць, а не забіваюць. Нязгодных будуць прыбіваць абвінавачваньнямі ў расізме – або менш абстрактнымі спосабамі, як, напрыклад, бэйсбольнымі бітамі – і ў іх забяруць права апеляваць да гуманнасьці й чалавечнасьці, бо яны ж з групы “апрэсараў”.

Пакуль усё вышэйсказанае здаецца тэарэтычнай спэкуляцыяй, бо намінальна ЗША маюць белую бальшыню. Але

заканчэньне на бачыне 4

# Прэзэнтацыя альманаха

*заканчэньне з бачыны 1*

сіць і выдаецца за ахвяраваньні фундатараў і чытачоў". Затым сп. Клакоцкі адказаў на пытаньні прысутных. Ён адзначыў, што сёлетні выпуск, 27 аўтараў на 445 старонках, ёсьць адным з самых аб'ёмістых нумароў. З увагі на тое, што апошім часам зь Беларусі масава выехала значная колькасьць людзей, і сярод іх шмат людзей пішучых, тым ня менш у альманах пакуль ніхто не зьвяртаўся. Канешне, шмат каму не да літаратурнай творчасьці ў першыя гады жыцьця на чужыне. Калі раней у Беларусі было больш магчымасьцяў друкавацца па-беларуску, цяпер яны значна звузіліся, і, можа, будзе варта зрабіць асобнае выданьне, другі альманах, для друку тых, хто жыве ў Беларусі й піша па-беларуску. Але гэта ўжо будзе задача для некага іншага.

Затым сп. Віталь Зайка сказаў, што ён хацеў бы пагаварыць пра ўсіх аўтараў і творы сёлетняга выпуску, і калі хто з аўтараў прысутны, ён папросіць іх распавесьці пра сябе і сваю творчасць.

Пасьля размова дайшла да сп. Віктара Едзіновіча прысутнага ў залі. Ён сказаў, што апублікаваў некалькі сваіх апавяданьняў, але яшчэ ня чуў ні ад кога ніякай апініі пра свае творы, а вельмі цікава было б пачуць. Тады ён закрануў апавяданьне пра вайну ва Ўкраіне і сваё фантастычнае апавяданьне пра касьмічны палёт, што выйшлі ў сёлетнім нумары. Сп. Едзіновіч заўважыў, што ён хіба адзіны, хто публікуе ў альманаху навукова-фантастычныя аповеды.

Затым пра сябе і сваю творчасьць распавёў сам вядучы, сп. В. Зайка. Ён пагадзіўся са сп. В. Едзіновічам у тым, што кожнаму аўтару важная зваротная сувязь і нейкае сьведчаньне таго, што ягоныя творы трапляюць да чытачоў. Прамоўца распавёў пра свой эсэй пад назваю "Мае 60-я", пра патрэбы данесьці свой досьвед і падзяліцца сваімі ўспамінамі. Затым аўтар прачытаў невялічкі ўрывак са свайго твору пра супрацьстаяньне сіле расейскасьці праз дывэрсіфікацыю і большую ўвагу да моваў і культураў нашых суседзяў, і словы пра тое, што "беларуская справа як малітва – пачуе Бог ці не, а бярэш і робіш далей".

Потым слова было перададзена спні Тацяне Заміроўскай. Яна ўжо досыць прызнаная й дасьведчаная аўтарка, але да нядаўняга часу рэалізоўвала свой патэнцыял пераважна па-расейску. Прыемна, што ўжо другі яе твор па-беларуску выходзіць менавіта ў альманаху ""Беларус". Аўтарка распавяла перадгісторыю свайго апавяданьня, пра настальгічную тэлепартацыю, што падштурхнула яе да напісаньня ня столькі *sci fi* як *horror*, бо ў Беларусі цяпер кругом менавіта *horror*. Распавяла яна таксама пра зьбіраньне сноў беларусаў, як у снах беларускія жанчыны забіваюць Лукашэнку, пра калектыўную траўму і адмыслова эмігранцкія сны. Гэта ў яе асабіста здаралася: "Сьню, што прачнулася ў Беларусі, а няма візы, і як цяпер вярнуцца ў Штаты." Наагул, калі сьніш, што трапіў на радзіму – дык замест шчасьця, што было б натуральна адчуваць, чалавек адчувае жах, рыдае і думае, як вярнуцца дадому, у Амэрыку". Тацяна згадала пра прывідную настальгію, калі месцы ў Амэрыцы нагадваюць беларускія краявіды, знаёмыя мясьціны на Бацькаўшчыне. Так, балота ў Флёрыдзе нагадвае тыповае беларускае балота, а Марын Парк у Брукліне – мясьціну недзе ў Серабранцы ці Лошыцы. У яе апавяданьні героі праз тэлепартацыю, вынайдзеную лукашысцкімі вучонымі, трапілі ў Ратамку, дзе праз тэлеперадачу даведаліся пра гэтае вынаходніцтва. Па словах прапагандыста Азаронка, адбываецца тэлепартацыя "беглых", калі тыя бачаць нешта сваё, роднае ў замежных краявідах, і затым апынаюцца ў Беларусі, дзе іх знаходзіць "справядлівая кара". Але потым паўстала творчая задача – разабрацца, як жа героі апавяданьня будуць ратавацца. Некаторыя, прачытаўшыя апавяданьне, наракалі, нашто трэба было згадваць Азаронкава непаважанае імя. Тацяна кажа, што і ён згадваў яе, і вось цяпер яна вяртае "прыемнасьць". Выступоўца дадала, што апавяданьнем зацікавілася рэжысэрка Даша Жук, з тым каб скарыстаць яго як сцэнар для фільму.

Наступным выступіў сп. Алесь Пазьняк і распавёў, як быў арыштаваны ў жніўні 2020 году, як сядзеў у нязносных умовах у камэры-стакане, як аднаму хлопцу з дрэдамі амон зрэзаў нажом дрэд разам са скураю, амаль як індзейцы здымалі скальпы. Наагул, падзеі 2020 году яшчэ мусяць быць ацэненыя гісторыяй, гэта тое, праз што прайшлі й працягваюць праходзіць нашыя людзі. Большасьць сустрэтых ім на Акрэсьціна – гэта выпадковыя людзі, якія трапіліся пад руку рэпрэсіўнаму апарату. Апавяданьне "Чара цярпеньня", прадстаўленае ў альманаху, – развага пра тое, колькі тая чара яшчэ будзе напаўняцца, і колькі людзі будуць трываць, і калі яна перапоўніцца.

Потым чарга для выступу дайшла да аўтара сп. Аляксандра Хацкевіча. Ён папрасіў прабачэньня, што недасканала валодае мовай, і прачытаў верш "Людзі на балоце – бы збаны на плоце..." Затым ён распавёў пра сваю п'есу "Чорная птушка" і падкрэсьліў, што ён за тое, каб пашыраць сьвет культуры ў літаратуры, у музыцы і кожнай іншай сфэры. Кніга А. Хацкевіча "Замак на ўзгорку" была намінаваная на прэмію Ежы Гедройця, і яна няблага прынятая чытацкай аўдыторыяй. Сп-ня Ганна Шарко спытала, ці альманах спрычыніўся да ягонага посьпеху. Сп. Хацкевіч сказаў, што роля альманаху была вельмі вялікая, бо калі пабачыў свой твор надрукаваным у ім, то гэта натхніла, дало сілы на далейшую працу.

І ў канцы прэзэнтацыі выступіла спня Валянціна Якімовіч. У чорнай сукенцы зь белай аплікацыяй яна выглядала дужа эфэктна, і пры гэтым прадэманстравала немалыя артыстычныя здольнасьці. Яна распавяла, што грала ў тэатральных пастаноўках. Згадала пра гады сваёй маладосьці, апісаныя сёлета ва ўспамінах "Самота", пра мужоў і афрыканца Агюстэна. Згадала, што ад трох год яна хацела кахаць і быць каханай. Што стала пісьменьніцай – дзякуючы Марату Клакоцкаму. Распавяла пра свой жыцьцёвы шлях, пра Беларускае Адраджэньне 1980-х гадоў, пра мастакоў і паэтаў Міколу Купаву, Анатоля Сыса, Алеся Марачкіна, Алеся Пушкіна, пра арганізацыі моладзі "Майстэрня", "Талака", "Тутэйшыя". На яе думку паспрыяў Адраджэньню ў тыя часы найперш наш беларускі фальклёр, абрадавасьць, Купальле.

Напрыканцы імпрэзы сп-ня Ганна Шарко паднесла сп. Марату Клакоцкаму торт і падзякавала за ягоную працу, пажадала імпэту і натхненьня да далейшай выдавецкай справы.

Затым выступілі сп-ня Ганна Сурмач і адзначыла, што звычайна няма браку добрых ідэяў, але з іх рэалізацыяй часта паўстаюць праблемы. А вось сп. Клакоцкі якраз паказвае нам прыклад адданасьці справе й ахвярнасьці.

Затым адбылася неафіцыйная частка з пачастункамі й віном, падчас якой прысутныя мелі магчымасьць набыць альманах "Беларус" і пагутарыць з аўтарамі, узяць аўтограф. Прысутныя мелі таксама нагоду агледзець тут жа ў залі выставу выцінанак мастачкі Вольгі Бабурынай-Палуніцы, якую падрыхтаваў сп. Гэнік Лойка.

***Віталь ЗАЙКА***

Разам са сьнежаньскім нумарам "Вестак і Паведамленьняў" падпісчыкі бюлетэня атрымалі **каляндар Згуртаваньня "Пагоня" на 2024 год**. Тыя асобы, хто захоча мець больш чым адзін асобнік гэтага календара, могуць яго замовіць на сайце ***e-krama.com***. Кошт аднага календара разам з дасылкаю ў межах ЗША **$15**, з дасылкаю ў Канаду **$17**, ва ўсе іншыя краіны сьвету **$20**.

Замовы таксама можна дасылаць поштаю на адрас рэдакцыі. Чэкі выпісвайце на імя **Marat Klakotski**.




## Шаноўныя сябры!

### замоўляйце літаратурны альманах беларускіх пісьменьнікаў замежжа “БЕЛАРУС” за 2023 год.

Кошт сёлетняга нумару з дасылкаю ў межах ЗША і Канады **$22**, з дасылкаю ў краіны Эўропы **$25**. Падтрымайце аўтараў і выдаўцоў сваёй зацікаўленасьцю.

*Дасылка ў Беларусь, Украіну й Расею сёньня, немагчымая.*

Замовы, калі ласка, дасылайце поштаю на адрас:

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***.

Чэкі выпісвайце на імя рэдактара і выдаўца ***Marat Klakotski.***

Новы выпуск “Беларуса” можна таксама замовіць на ўэб-сайце ***e-krama.com.*** Там жа можна набыць і ўсе папярэднія нумары альманаха, пачынаючы ад 2007 году, а таксама беларускія кнігі і календар Згуртаваньня “Пагоня” на 2024 год.

## Адвакаты Хамасу...

***заканчэньне з бач. 2***

калі ўлічыць, што ў вырашальных цэнтрах улады, якімі зьяўляюцца буйныя гарады, белыя ўжо шмат дзе ў меншыні, і што за 50 год – усяго за 2 пакаленьні – доля белых зьнізілася з 89% да 58% – вышэйсказанае ня ёсьць такім ужо неверагодным. Справа нават не ў працэнтах, а ў тым, што пераважнай большасьці моладзі ўсіх расавых групаў ужо ўстаўленыя ў галаву тэзы аб “сыстэмным расізме”, “белых прывілеях”, “патрэбе рэпарацыяў” у ЗША. Самазьнішчэньнем займаюцца самыя белыя – і будуць ганарыцца гэтым; прыкладаў ужо дастаткова.

Вяртаючыся да палестынскай праблемы: у лявацкіх колах лічыцца аксіёмай, што Ізраіль, першая і пакуль адзіная дэмакратыя ў рэгіёне – гэта “грамадства прыгнёту й апартэіду”. Чуваць заявы, быццам паўднёвая граніца ЗША – гэта інструмэнт апартэіду. Маўляў там, на поўнач ад мяжы, усе смачна ядуць і спажываюць “нішцякі”, чаго быццам пазбаўленыя няшчасныя на поўдзень ад той мяжы. Наагул, чым не апартэід тое, што на плянэце ёсьць група разьвітых краінаў, якая ахоўвае свой сувэрэнітэт праз сыстэмы дзяржаўных межаў. Трымаючыся лявацкіх прыдумак, можна дайсьці й да больш абсурдных высноваў. Адно з пэўнасьцю можна сказаць – усялякі й кожны аспэкт Заходняй цывілізацыі знаходзіцца пад атакай, пераглядам і рэвізіяй. Праз адукацыю самагубная левая ідэалёгія пратачылася ва ўсе поры грамадзтва, яна дзейнічае кожную хвіліну, і прахамасаўскія пратэсты – толькі адна з праяваў гэтага. Зубы дракона, пасеяныя левакамі, пачалі ўзыходзіць.

Антысэмітызм робіцца мэйнстрымам, антыізраільскія пратэсты зьбіраюць рэкордную колькасьць удзельнікаў, БіБіСі забараняе рэпартэрам удзел у мітынгу супраць антысэмітызму ў Лёндане, падлеткі й моладзь за бін-Ладана на ТыкТоку, прарасейская і антыўкраінская, антыізральская, антыамэрыканская дэбільнасьць сацыялістычных элітаў Лацінскай Амэрыкі – гэта зьвёны аднаго ланцуга разбурэньня Заходняй цывілізацыі, падрыхтоўкі да пабудовы новага грамадзтва, як яго бачаць левaрадыкальныя сілы.

І такім чынам падтрымка антыізраільскага руху, які быў столькі год маргіналізаваны й абмяжоўваўся вузкім колам актывістаў сярод палестынскай дыяспары, цяпер выйшаў на шырокі прасьцяг. Так сталася, бо па тэорыі інтэрсэкцыянальнасьці розныя “паняволеныя” групы мусяць падтрымліваць адна адну і выступаць за скасаваньне прыгнёту любога кшталту. Прыгнёт можа быць сапраўдным ці прыдуманым, але ахвяры “скасаваньня” прыгнёту робяцца цалкам рэальнымі – як у нядаўнім нападзе Хамасу на мірных ізраільцаў. І па лявацкай догме, гэтыя загінуўшыя людзі ня вартыя ні спагады, ні шкадаваньня. Так гуманнасьць асобна ўзятай чалавечай істоты робіцца адмененай дзеля прыналежнасьці да пэўнай групы! Ці ня гэта было ўжо падставай зьверстваў і генацыду праз вякі? Гісторыя зрабіла поўны круг, і зноў вяртаюцца цёмныя стагодзьдзі.

Што рабіць, калі пад ачмурэньне лявацкай ідэалёгіі патрапілі вядучыя інстытуцыі грамадзтва, ад сыстэмы адукацыі й мэдыяў да войска і заканадаўства. Карты разданыя, і амаль усе казыры – у руках левакоў, так званых “прагрэсіўных” сілаў, што фактычна вядуць да вяртаньня ў сярэднявечча. Але ў абаронцаў Заходняй цывілізацыі ёсьць джокеры – дасягненьні гэтай самай цывілізацыі, лёгіка і глузд. Задача толькі не збаяцца, ня схібіць, скарыстаць іх найбольш эфэктоўным чынам, даносіць праўду, у тым ліку і пра адвакатаў Хамасу і д’ябла, пра пагрозу, што нясуць яны для ўсіх людзей.

***Віталь ЗАЙКА***

Аб імпрэзах, якія ладзіць Беларуска-Амэрыканскае Згуртаваньне “Пагоня”, а таксама пра бягучыя падзеі ў жыцьці арганізацыі можна даведацца наведаўшы старонку “Пагоні” ў Фэйсбуку:
***https://www.facebook.com/groups/ 134811029970802/***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :**

**М. Івашчанка ............ .30**
**А. Курушка ............... .30**
**Фунд. Крэчэўскага ....... .30**
**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***
**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня” *Viktar Yedzinovich.***

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich***.

**Уплаты ў Згуртаваньне Складкі й ахвяраваньні:**

**А. Агееў ................. .60**
**М. Івашчанка ........... .60**
**Шчыры дзякуй!**